*У адзінстве наша сіла!*



# САЛІДАРНАСЦЬ

№ 11 (326)

13 - 19 сакавіка 2000 года

*Распаўсюджваецца бясплатна*

**ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА НЕЗАЛЕЖНАГА ПРАФСАЮЗА ГАРНЯКОЎ, ХІМІКАЎ, НАФТАПЕРАПРАЦОЎШЧЫКАЎ, ЭНЕРГЕТЫКАЎ, ТРАНСПАРТНІКАЎ, БУДАЎНІКОЎ І ІНШЫХ РАБОТНІКАЎ**

## КТО "ЗАКАЗАЛ" ПРОФСОЮЗ?

**В октябре 1999 года инспектором финансовой милиции составлен акт о якобы имевшем место превышении лимита остатка кассы БНП и наложены штрафные санкции на сумму в 348460 тысяч рублей.**

❐

Действия финансовой милиции носят открыто незаконный характер. Так как "Правила ведения кассовых операций", на которые ссылаются ее работники, распространяются только на субъекты хозяйствования - государственные и частные предприятия, но никоим образом не относятся к профсоюзам.

Еще одна ссылка инспектора и его начальников на Постановление Национального банка Республики Беларусь № 2 от 30.03.99 г. является также несостоятельной по той причине, что в упомянутых Правилах речь идет об общественных объединениях как субъектах. И, естественно, данный нормативный акт не может применяться в отношении политических партий и профсоюзов, которые не занимаются хозяйственной деятельностью. То есть, в понимании инспектора вышеуказанное Постановление вступает в противоречие с законом.

Но ведь наличие финансовых средств в кассе профсоюза сверх никем не установленного лимита не нарушает ст. 23 Закона "О профессиональных союзах", ст. 1 "Закона об общественных объединениях", действующих Правил ведения кассовых операций", о чем и было изложено в жалобе на неправомерные действия милиционера начальнику Управления Госкомитета финансовых расследований А.М. Жуковскому. Однако начальник не нашел ничего противоправного в действиях своего подчиненного.

По данной проблеме мы обращались и в Государственный налоговый комитет Республики Беларусь, где в устной форме господин Демчук заявил, что, в соответствии с Законом о профсоюзах, мы имели право не предъявлять финансовые документы для проверки.

Таким образом, можно сделать вывод, что в Республике Беларусь существует не правовая система, а силовая, при которой закон всегда стоит ниже безграмотности и упрямства силовых структур, которые на основе беззакония пытаются латать бюджетные дыры и пополнять свои личные доходы за счет премиальных.

При этом очень многие высокопоставленные чиновники в частных беседах утверждают, что профсоюз "заказали" сверху и при этом глазами указывают в потолочно-небесную высь.

Вопрос лишь в том, кому это надо, как долго это будет длиться и где будут работать эти чиновники, когда в нашем государстве воцарится сила закона, а не сила тупости. А что это произойдет, я не сомневаюсь. Рано или поздно - всем придется отвечать перед законом и по закону. Тогда ссылка на господа или диктатора будет несостоятельна, так как "заказа" в письменной форме никто не видел, а "киллеры" уже разоблачили сами себя.

**В. БАБАЕД,**
**председатель БНП**

*Деловые встречи*

## Сила женщин – в их сплоченности

15 марта Беларусский Независимый профсоюз посетили юрист Американской Ассоциации юристов Вильям Хикин и председатель Беларусской Организации трудящихся женщин (БОТЖ) Мария Алиева. Гости побеседовали с руководством профсоюза. Затем их ознакомили с достопримечательностями города. Во второй половине дня они встретились с активистками женской организации БОТЖ.

Мария Алиева кратко рассказала о проделанной работе возглавляемой ею организации. БОТЖ создана в 1996 году, насчитывает 80 первичек в восемнадцати городах Беларуси. Ее знают уже и за рубежом. Мария Алиева как лидер одной из самых дееспособных беларусских женских организаций по приглашению посольств побывала в Голландии, США, Англии. Другие активистки тоже посетили Голландию, США, готовятся к поездке в Швецию.

Сегодня, считает М. Алиева, помощи женщинам ждать неоткуда. Надеяться только на самих себя, на свою сплоченность, взаимовыручку. Она призвала женщин объединяться. Женщины-члены БОТЖ получают бесплатную помощь юристов, психологов. Готовится проект по созданию кризисного центра.

По линии БОТЖ проводятся различные семинары на экологические, медицинские, правовые темы.

Женщины проводят акции по сбору одежды, средств для бедствующих семей, детей. Проводили и будут проводить впредь акции протеста против нищеты и голода. На начало апреля планируется подобная акция. Члены БОТЖ взяли под свою опеку три детских дома.

Активность людей, как отметила М. Алиева, все возрастает. Но власти не заинтересованы в вынесении наших проблем на обозрение, не в восторге от возрастающей грамотности населения. Легче дело иметь с непросвещенными, неуверенными в себе, запуганными людьми. Чиновники создают всяческие препятствия движению, под всяческими предлогами отказываются ставить на учет в исполкомы первичные организации БОТЖ, не дают им помещений для офисов и мероприятий.

Гость из США ответил на множество вопросов, отметил деловую активность членов БОТЖ, важность проблем и задач, которые они ставят и мужественно решают. Подчеркнул, что они занимаются важным, полезным для беларусского народа делом. На конкретном примере работы одного из женских движений в США Вильям Хикин показал, что сплоченные женщины могут многого достичь.

События происходили в небольшом американском городке, примерно таком же, как Солигорск. Несколько химических кампаний тайно складировали химические отходы вблизи города. Вскоре горожане заметили у детей и взрослых рост не свойственных для этой местности заболеваний, в том числе и онкологических. Женщины объединились, чтобы выяснить причину, провели независимые экспертизы, привлекали к ним ученых, студентов. В результате вскрылась истинная причина бед. После стойкой борьбы женщин государство вынуждено было за свой счет построить дома и переселить жителей города в экологически чистое место. Компенсации за моральный вред и подорванное здоровье выплатили компании - виновники химического загрязнения.

Многое в руках и наших беларусских женщин, но сильных духом, уверенных, грамотных, а главное - сплоченных, солидарных.

В заключение присутствующие поблагодарили гостей и выразили желание почаще встречаться и проводить в Солигорске семинары по интересующим беларусских женщин проблемам, а их, повторимся, не мало.

**Н. БЫСТРОВА.**





***НА СНИМКАХ:** американский юрист Вильям Хикин и юрист БНП Тамара Шелмакова; участники встречи в городской библиотеке на выставке картин солигорского художника Анатолия Смолича.*

*У нашых суседзяў*

## На Украіне - жалоба

13 - 15 сакавіка на Украіне абвешчаны днямі жалобы. У гэтыя дні будуць пахаваны 80 гарнякоў шахты імя Баракава дзяржаўнай холдынгавай кампаніі «Краснадонвугаль». Яны загінулі ад выбуху на шахце 11 сакавіка. На той момант пад зямлёй знаходзіліся 287 чалавек; 87 гарнякоў апынуліся непасрэдна ў зоне выбуху; сямёра з іх шпіталізаваны.

Шахта імя Баракава ўведзена ў эксплуатацыю ў 1967 годзе і лічылася небяспечнай з-за раптоўных выкідаў вугалю і газу, а таксама выбуханебяспечнасці вугальнага пылу. Як паведамляе інфармагенцтва УНІАН, зараз на месцы трагедыі працуе ўрадавая камісія на чале з прэм'ер-міністрам Віктарам Юшчанкам. Адпрацоўваецца версія аб выбуху вугальнага пылу. Як мяркуюць эксперты, адной з прычын магло быць грубае парушэнне тэхнікі бяспекі. У прыватнасці, як заявіў на прэс-канферэнцыі 12 сакавіка міністр паліва і энергетыкі Украіны Сяргей Тулуб, «тое, што я ўбачыў на шахце як спецыяліст, з'яўляецца элементарным грэбаваннем правіламі бяспекі». На шахце, паводле яго слоў, мела месца безадказнасць як асобных кіраўнікоў, так і непасрэдных выканаўцаў работ.

Зараз шахта не дзейнічае, аднак пасля комплексу аднаўленчых работ будзе функцыянаваць у звычайным рэжыме. Канчатковыя высновы камісіі чакаюцца ў канцы тыдня.

У выніку трагедыі сіротамі засталіся 135 дзяцей гарнякоў, з іх 71 - ва ўзросце да 16 гадоў. Урад выдзеліў 10 мільёнаў грыўняў для дапамогі пацярпелым і сем'ям загінуўшых шахцёраў, а Ашчадны банк адкрыў адмысловыя рахункі для збору ахвяраванняў.

14 сакавіка ў Краснадоне адбудзецца грамадзянская паніхіда, на якую, як чакаецца, прыедзе прэзідэнт Леанід Кучма.

Тым часам кіраўніцтва Вярхоўнай рады Украіны прыняло рашэнне пералічыць аднадзённы заробак дэпутатаў сем'ям гарнякоў, што загінулі і пацярпелі.

## АБВЕШЧАНЫ ЎЛАДАМІ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ДЫЯЛОГ КІРАЎНІЦТВА БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ» І ПАРТЫІ БНФ НАЗЫВАЕ «ПРАПАГАНДЫСЦКАЙ КАМПАНІЯЙ РЭЖЫМУ»

**Мінск, 14 сакавіка.** На думку кіраўніцтва БНФ «Адраджэньне» і партыі БНФ, узначальваемых Вінцуком Вячоркам, дырэктыўна абвешчаны ў Беларусі так званы «шырокі грамадска-палітычны дыялог» не можа замяніць прамых перамоў паміж уладай і апазіцыяй. У пастанове сойма руху і партыі БНФ падкрэсліваецца: адказныя палітычныя сілы не павінны браць удзел у «прапагандысцкай кампаніі рэжыму пад назвай «шырокі дыялог», мэта якой - увесці ў зман беларускую і міжнародную грамадскасць».

Разам з тым прадстаўнікі БНФ гатовы ўдзельнічаць у перамовах з уладамі на пэўных умовах. Па-першае, такія перамовы павінны праводзіцца пры пасрэдніцтве АБСЕ. Па-другое, улады павінны папярэдне выканаць шэраг патрабаванняў апазіцыі, сярод якіх - вызваленне палітзняволеных, спыненне крымінальнага пераследу па палітычных матывах і забеспячэнне свабоды слова.

Сойм руху і партыі БНФ пад кіраўніцтвам В.Вячоркі таксама прыняў зварот, у якім заклікаў беларускую і міжнародную грамадскасць зрабіць усё магчымае для вызвалення дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Андрэя Клімава, суд над якім працягваецца, і Уладзіміра Кудзінава, які адбывае турэмнае зняволенне. А.Клімава аўтары звароту назвалі «заложнікам рэжыму». На іх думку, лёс дэпутата будзе вырашацца ў залежнасці ад характару палітычных, у тым ліку вулічных, акцый апазіцыі.

**Наталля КУЛАГІНА,**
**БелаПАН.**

**Ужо некалькі гадоў запар патрыятычныя сілы нашай краіны адзначаюць 25 сакавіка Дзень Волі – гадавіну ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Але агульнанацыянальным святам, тым больш, дзяржаўным яно пакуль і не стала. Бо нашы ўлады старанна замоўчваюць сам факт існавання БНР з-за сваёй прарасійскай зацыкленасці. Дзе ўжо ім узгадваць пра тое, што ў 1918 годзе беларусы на ўвесь свет абвясцілі аб стварэнні незалежнай дзяржавы. І ў першую чаргу – незалежнай ад Расіі, у якую пішчом лезуць надзеленыя ўладнымі паўнамоцтвамі сённяшнія манкурты. Хаця не могуць не разумець яны, што і 82 гады назад бальшавіцкая Расія "здала" сваю "сястру" Беларусь Германіі амаль цалкам дзеля выратавання камуністычнага рэжыму, што і цяпер яна патрэбна вялікай усходняй суседцы, якая, напэўна, ніколі не пазбавіцца ад імперскага сіндрому, толькі ў якасці "калідору", "акна" ў Еўропу, а не з-за братніх славянскіх пачуццяў.**

**Насуперак апантанаму процідзеянню кіруючага рэжыму, з кожным годам расце на Беларусі нацыянальная самасвядомасць, павялічваецца колькасць тых, хто падтрымлівае абвешчаныя БНР ідэі. Чакаецца, што ў гэтым годзе святкаванне Дня Волі будзе самым масавым за ўсе папярэднія гады, пройдзе не толькі ў сталіцы, але і многіх іншых гарадах рэспублікі. Спадзявацца на гэта дае падставы ўжо той факт, што сёлета ў Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванні, апрача палітыкаў усіх партый і рухаў дэмакратычнай скіраванасці, увайшлі вядомыя дзеячы навукі і культуры, пісьменнікі, журналісты шэрагу выданняў. Узначаліў Камітэт вядомы беларускі гісторык, прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі Еўразіі Анатоль Пятровіч ГРЫЦКЕВІЧ. Яго выступленне на першым паседжанні Камітэта, запісанае нашым карэспандэнтам на дыктафон, прапаноўваем увазе чытачоў.**


Бел-чырвона-беламу сцягу - лунаць над нашай краінай!

# Незалежнасць Беларусі пачыналася ў 1918 годзе

У канцы 1917 года нацыянальныя сілы арганізавалі ў Мінску Усебеларускі з'езд, у які былі выбраны больш за 1700 чалавек – дэлегаты ад усіх валасцей, гарадоў, паветаў, губерняў, вайскоўцаў, рабочых, бежанцаў, прадстаўнікі розных партый. Нават гісторыкі камуністычнага накірунку прызнаюць, што гэта быў самы дэмакратычна абраны з'езд у гісторыі Беларусі першай паловы дваццатага стагоддзя.

На з'ездзе сутыкнуліся дзве плыні – прыхільнікаў поўнай незалежнасці Беларусі і прыхільнікі яе аўтаноміі ў складзе Расійскай дэмакратычнай рэспублікі (савецкай федэратыўнай сацыялістычнай яе тады яшчэ не называлі, бо падзеі адбываліся адразу пасля кастрычніцкага перавароту).

З'езд паспеў выбраць Раду і Выканаўчы Камітэт, але быў разагнаны мясцовым бальшавіцкім кіраўніцтвам на чале з вядомым дзеячам Мясніковым, якое баялася страціць уладу. Рада і Выканкам на паўлегальных умовах былі схаваны рабочымі чыгуначных майстэрняў – цяперашняга вагонарамонтнага завода, дзе і праводзілі свае паседжанні. Такім чынам, абраная З'ездам улада дзейнічала.

У той час, як вядома, ішла першая сусветная вайна, праз Беларусь праходзіў фронт. Расійская армія развальвалася ў выніку дзейнасці бальшавікоў яшчэ пры Часовым урадзе. Было заключана перамір'е з немцамі. У Брэсце вяліся безвыніковыя перамовы. Паколькі савецкі ўрад не пагаджаўся на нямецкія ўмовы, у сярэдзіне лютага 1918 года немцы папярэдзілі, што пойдуць у наступ. Дазнаўшыся пра гэта, бальшавіцкія ўлады з Менска на эшалонах уцяклі ў Смаленск. Скарыстаўшы гэта, 19 лютага ўладу ў Менску ўзялі беларускія сілы. Дзейнічала Беларуская вайсковая Рада, якая мела ў сваім распараджэнні невялікую колькасць людзей, узброеных толькі вінтоўкамі.

Неўзабаве пасля таго, як уладу ўзялі ў свае рукі Рада і Выканаўчы камітэт з'езда, апошні быў пераўтвораны ў Народны Сакратыят – беларускі ўрад. Прыняты дакументы, якімі замацавана беларуская ўлада.

Але праз некалькі дзён Менск быў заняты нямецкімі войскамі. Акупанты беларускую ўладу не прызналі і адразу захапілі адміністрацыйны будынак Рады на плошчы Свабоды, дзе цяпер знаходзіцца музычны ліцэй. Бел-чырвона-белы сцяг быў зняты, а Народны Сакратарыят – выкінуты на вуліцу.

Трэцяга сакавіка ў Брэсце быў заключаны мір, паводле якога значная частка Беларусі аддавалася Германіі, а астатняя амаль уся, за выключэннем Віцебска, была захоплена ёю ў якасці закладу – Савецкая Расія была абавязана выплаціць немцам вялікую кантрыбуцыю – шэсць мільёнаў залатых рублёў альбо золатам, альбо харчаваннем, якога ў Германіі не хапала. Такім чынам гаспадарыць на Беларусі сталі немцы, а савецкі ўрад даў згоду на яе падзел.

Нягледзячы на акупацыю, Выканаўчы Камітэт і Рада працягвалі дзейнічаць і ўжо дзевятага сакавіка абвясцілі Беларускую Народную Рэспубліку з усімі ўласцівымі для іншых дзяржаў дэмакратычнымі правамі. І нават з некаторымі заваяванымі ў час лютаўскай рэвалюцыі і кастрычніцкага перавароту. Напрыклад, зямля абвяшчалася агульнадзяржаўнай маёмасцю, уводзіўся васьмігадзінны рабочы дзень і г.д.

Тым часам да менскіх беларускіх дзеячаў далучыліся віленскія на чале з братамі Антонам і Іванам Луцкевічамі, якія стаялі на пазіцыях поўнай незалежнасці Беларусі. Масква тады практычна не цікавілася падзеямі ў Беларусі і з ёю не падтрымлівалася ніякіх сувязей, бо раздзяляла лінія размяшчэння нямецкіх войскаў.

Рада была папоўнена за кошт кааптацыі ў яе віленскай дэлегацыі, а таксама прадстаўнікоў розных нацыянальных сілаў – польскіх і яўрэйскіх сацыялістычных партый, гарадскіх дум, сфармаваных яшчэ да рэвалюцыі, у якія ўваходзілі рускія – прыхільнікі адзінай і непадзельнай Расіі.

24 сакавіка, калі прыбыла віленская дэлегацыя, на паседжанні сацыялістычнай фракцыі Рады, Антон Луцкевіч прапанаваў абвясціць незалежнасць БНР і парваць дзяржаўныя сувязі з Расіяй, якія накінуў царызм у канцы 18 стагоддзя. Усю ноч на паседжанні ішлі спрэчкі, але згода была ўсё ж дасягнута. Ноччу ж адбылося і паседжанне Рады БНР, якое праходзіла ў будынку на цяперашняй вуліцы Валадарскага ля Рускага тэатра. І ў 8 гадзін раніцы большасцю галасоў было прынята рашэнне абвясціць незалежнасць БНР. Праўда, удзел у галасаванні не прынялі некаторыя групоўкі – у асноўным, прадстаўнікі яўрэйскіх партый і гарадскіх дум, якія ў знак пратэсту пакінулі залу.

Рада прыняла III Статутную грамату, у якой пералічвалася ўся тэрыторыя Беларусі, заяўлена аб незалежнасці БНР і неабходнасці яе прызнання еўрапейскімі краінамі, якія ў той час дамагліся або дамагаліся незалежнасці. Да іх, дарэчы, адносіліся краіны Прыбалтыкі, Польшча, Чэхаславакія. Беларусь, такім чынам, ішла ў агульным усходнееўрапейскім накірунку. Потым БНР была прызнана цэлым шэрагам іншых краін – Польшай, Турцыяй, Германіяй, Даніяй і іншымі. У лістападзе 1918 года на гэты конт вагалася нават Расія. Калі прэм'ер-міністр БНР Антон Луцкевіч паехаў на перамовы ў Маскву, Ленін не даваў адмовы: пачакайце, маўляў.

Улада БНР у Менску захоўвалася да канца 1918 года, і яна ў сацыяльным плане здолела зрабіць многае. Праўда, нямецкія акупанты, якія прабылі ў Менску да канца снежня 1918 года, не дазвалялі палітычнай дзейнасці і ствараць армію. Хаця, нягледзячы на гэта, у Гродне напрыканцы акупацыі былі створаны два беларускія палкі і адзін эскадрон.

А вось культурную дзейнасць, сацыяльную абарону працоўных уладам БНР немцы дазволілі. Было адчынена некалькі дзесяткаў беларускіх гімназій і школ сярэдняга тыпу. Упершыню на вёсцы беларускіх школ у 1918 годзе з'явілася некалькі соцень. Было прынята рашэнне аб адкрыцці пединстытута, аб стварэнні нацыянальнага ўніверсітэта, якога і сёння фактычна няма. Пачалі выплочваць пенсіі, збіраць некаторыя падаткі. Дзяржава пачыналася, хаця стварыць яе як след немцы і не дазволілі.

... Як сімвал БНР усе гэтыя гады да сённяшняга дня за мяжой існуе яе Рада. Спачатку пасля вяртання рускіх бальшавікоў на Беларусь яна месцілася ў Вільні, Коўне, Празе, а цяпер – у Амерыцы.

Рада БНР дагэтуль для беларусаў замежжа застаецца сімвалам вольнай радзімы, хаця яна і не з'яўляецца паўнавартасным парламентам. Аналагічныя органы за мяжой мелі і іншыя краіны – Літва, Польшча, Украіна. Калі была абвешчана іх незалежнасць, кіраўнікі гэтых сімвалічных парламентаў перадалі свае паўнамоцтвы і пячаткі абраным народам уладам. Для Беларусі пакуль такі час не наступіў, хаця ў 1992-93 гадах перамовы наконт гэтага вяліся.

Раней пра дзень 25 сакавіка на Беларусі мала хто ведаў. Цяпер ён вяртаецца да ўсіх нас. Як напамінак пра неабходнасць дабівацца незалежнасці сваёй краіны, якая не мае на ўвазе ізаляванасці. Трэба жыць сябрамі з суседзямі. У той жа Расіі і я маю сваякоў, сяброў. Але неабходна быць поўнасцю незалежнымі – эканамічна, у вайсковым, дзяржаўным, палітычным планах. Бо толькі незалежнасць дасць магчымасць народу адчуць сябе гаспадаром у сваім доме і будаваць такое жыццё, якое ён захоча.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ,**
**прафесар.**

## *Што напісана пяром...*

# ВЯЧАСЛАВУ КЕБІЧУ НЯЎТУЛЬНА Ў ПАЛАЦЕ...

**Як высвятляецца, былы прэм'ер-міністр РБ, а цяпер дэпутат гэтак званай Палаты прадстаўнікоў Вячаслаў Кебіч сумуе. І найперш – па тых часах, калі ўлада знаходзілася выключна ў руках беларускага парламента, а дэпутат Вярхоўнага Савета быў паўнамоцным носьбітам гэтай улады і да яго ў грамадстве і ў чыноўніцкім асяроддзі ставіліся з адпаведнай павагай. Прынамсі, "адмахнуцца" ад дэпутата ніхто проста так не мог. Сум здолела выявіць у душы Вячаслава Францавіча журналістка барысаўскай афіцыйнай газеты "Адзінства" Людміла Зарэцкая, якая ўзяла ў вядомага палітычнага і гаспадарчага дзеяча інтэрв'ю, а затым, у 17-ым нумары свайго выдання, надрукавала яго.**

**Мы з гэтага вялікага матэрыялу прывядзем некалькі вытрымак, якія могуць выклікаць у нашага чытача цікавасць.**

**В.К.:** ... Іншая справа, што некаторыя дэпутаты ўсяляк пазбягаюць такіх сустрэч (з выбаршчыкамі – **"Салідарнасць"**), баяцца іх, бо нічым не здольны дапамагчы сваім выбаршчыкам.

***- У чым, на Ваш погляд, прычына гэтага?***

**В.К.:** Я быў дэпутатам ад Барысава ў Вярхоўным Савеце 12-га склікання, затым 13-га і ў сённяшнім парламенце, таму магу параўноўваць. Дэпутаты мінулых гадоў мелі паўнамоцтваў значна болей, чым сённяшнія. Сёння мы канстытуцыйна абмежаваны ў сваіх паўнамоцтвах. І часта для таго, каб вырашыць нейкае пытанне, даводзіцца карыстацца асабістымі сувязямі, добрымі стасункамі з прадстаўнікамі ўлады. Але многія дэпутаты наогул не атрымліваюць адказаў на свае запыты... Належыць мець на ўвазе, што закон трэба не толькі прыняць, але яшчэ і выконваць. Напрыклад, прымаючы бюджэт, мы зыходзім найперш з неабходнасці палепшыць эканамічнае становішча краіны, а, значыцца, кожнага з нас. А калі справа даходзіць да выканання, бачыш, што не ўсё ідзе так, як хацелася б.

***- Але ж прымаюцца і заканадаўчыя акты, якія ад пачатку нельга лічыць працуючымі на кожнага з нас. Напрыклад, законы, што тычацца прадпрымальніцтва.***

**В.К.:** Так. Ніводзін з іх не скіраваны на развіццё, скажам, малога прадпрымальніцтва. Вакол нас краіны, якія ў гэтым плане пайшлі вельмі далёка наперад. А мы ўсё нечага баімся.

***- Вячаслаў Францавіч, я крыху адвяла Вас убок. Давайце вернемся да прычын недасканаласці шматлікіх законаў.***

**В.К.:** Пра адну я ўжо сказаў. Сёння, на мой погляд, вельмі шмат хто ўмешваецца ў заканадаўчую дзейнасць, нават тыя, хто не мае на гэта права. Закон у першасным выглядзе ніколі не пройдзе праз парламент. Ёсць Адміністрацыя Прэзідэнта, Савет Міністраў, інстытут па прававых пытаннях, дзяржкантроль – і ўсе яны "прыкладваюць" сваю руку. Уносяць свае заўвагі юрыдычныя службы розных міністэрстваў і ведамстваў. Ёсць юрысты, якія "выклікаюць пякотку" ва ўсіх дэпутатаў, незалежна ад іх адносінаў да выканаўчай улады. У выніку мы атрымліваем заканадаўчы акт, які вельмі аддалена нагадвае першапачатковы варыянт... Я, яшчэ будучы старшынёй Саўміна, прапанаваў пайсці па іншаму шляху – зменшыць падаткі... Бо як толькі ўзнялі зарплату, кошты ў крамах выраслі куды болей, чым заробак. Але ад падняцця "мінімалкі" мы нічога не выйграём.

❐

Такім чынам, асцярожна, але зразумела для кожнага чытача газеты Вячаслаў Кебіч выклаў свой пункт погляду на становішча дэпутата ў Палаце прадстаўнікоў. Скажам шчыра – яно незайздроснае па міласці Аляксандра Лукашэнкі. Але ж за пасаду прэзідэнта галасаваў, як дэпутат ВС 12-га склікання, і Вячаслаў Кебіч. Так што Вячаславу Францавічу не трэба сёння скардзіцца на ўціск з боку Адміністрацыі прэзідэнта, які зараз незразумела на якіх падставах ўсё яшчэ пры ўладзе, хаця тэрмін легітымнага кіравання краінай ў Лукашэнкі скончыўся 21 ліпеня. Ці думаў тады, на пачатку 90-х, спадар Кебіч пра такі вось зыход гульні? Мусіць – не думаў, а ў крэсле прэзідэнта бачыў самога сябе.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

**Упраўленне адукацыі Мінскага аблвыканкама распрацавала так званую "Абласную праграму пераўтварэння сеткі дашкольных установ і школ у сувязі з дэмаграфічнай сітуацыяй у 2000-2004 гадах". З сітуацыяй, якая ўжо рэзка пагоршылася і, паводле прагнозаў спецыялістаў, мае перспектыву далейшага пагаршэння.**

**На самым пачатку артыкула прывяду кароткую "Аналітычную запіску", пад якой падпісаўся начальнік памянёнага ўпраўлення А.С. Новік. Каб чытач адчуў тое, чым пагражаюць наступствы дэмаграфічнай "авары" для народнай адукацыі на прыкладзе сталічнай вобласці.**

# ТБМ ТРЫВОЖЫЦЦА ЗА ЛЁС БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ

## ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

*Упраўленнем адукацыі аблвыканкама праведзены аналіз дэмаграфічнай сітуацыі ў вобласці. Па кожнаму мікрараёну дашкольнай установы і школы вывучаны стан нараджальнасці дзяцей, якія пойдуць у школу ў 2000-2004 гадах. З улікам гэтага састаўлены рэгіянальныя і абласныя праграмы пераўтварэння сеткі ДДУ і школ.*

*За перыяд з 2000 па 2004 гады ў дашкольных установах узнікне магчымасць адкрыцця рознаўзроставых груп, дадатковых спартыўных залаў, экалагічных пакояў, мастацкіх студый і фітабараў. У гарадской мясцовасці знікне перагружанасць дашкольных груп. Таму ў ДДУ вобласці скароціцца толькі 222 групы (5%) і закрыецца 25 ДДУ (3%). Колькасць устаноў "Школа-дзіцячы сад" павялічыцца на 58 адзінак.*

*За гэты ж час колькасць класа-камплектаў у школах скароціцца на 1097 (8%), закрыюцца 42 школы (5%), у тым ліку пачатковых – 29 (3%, ад колькасці пачатковых школ 24%), базавых – 12 (1%, ад колькасці базавых 6%), сярэдніх – 1 (0,001%, ад колькасці сярэдніх школ 0,2%). Адначасова адбудзецца рэарганізацыя 16 школ, у тым ліку: 12 сярэдніх школ – у базавыя, 6 базавых – у пачатковыя. У гарадской мясцовасці зменшыцца колькасць дзяцей, якія вучацца ў другую змену.*

*Скарачэнне дашкольных груп у ДДУ, класа-камплектаў у школах вобласці прывядзе да скарачэння 1344 педагагічных работнікаў. Аднак, 80% з іх на той час дасягне пенсійнага ўзросту. Астатнія будуць працаўладкаваны. Упраўленнем адукацыі аблвыканкама праведзены прагноз патрэбы ў кадрах з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй на 2000-2005 г.*

Як бачым, лічбы ўражваюць. Бо што такое, напрыклад, закрыццё 29-х пачатковых, 12 базавых і 1 сярэдняй школы? Гэта найперш – 42 населеныя пункты, якія застануцца без школ.

Ёсць і іншыя падставы для занепакоенасці лідэраў Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

### Дэмаграфія

"Абласную праграму..." па просьбе газеты "Салідарнасць" пракаментаваў кіраўнік спраў рады ТБМ Сяргей Кручкоў.

- Дэмаграфічная сітуацыя пачала пагаршацца, і найперш – у сельскай мясцовасці. На маю думку, дзейнічаюць два негатыўныя фактары непрадуманай эканамічнай палітыкі ў адносінах да калгаснай вёскі, што прывяла да сацыяльных наступстваў у беларускай глыбінцы. Фактар першы: нежаданне кіраўніцтва дзяржавы перадаць зямлю і сродкі сельгасвытворчасці ў рукі фермераў або аграфірмаў выключна рынкавага зместу па сваёй сутнасці. Фактар другі: гранічнае збядненне, люмпенізацыя вяскоўцаў, іхняе імкненне з'ехаць з вёсак у гарады ці нават за межы краіны ў пошуках больш-менш грашовай працы. Адсюль і вынікае: старое насельніцтва ў правінцыі памірае, новае не нараджаецца.

Што тычыцца нашай грамадскай арганізацыі, то мы хацелі б вельмі ўважліва сачыць за працэсам скарачэння школ і за тым, у якія школы пасля такога скарачэння ўвальюцца дзеці. У беларускія? Рускія? Бо не сакрэт: абсалютная бальшыня пачатковых, базавых і нават сярэдніх школ у глыбінцы беларускамоўныя. Мы зацікаўлены ў тым, каб дзеці і пасля ўсіх дэмаграфічных пертурбацый працягвалі навучанне з выкарыстаннем роднага слова. Чаму маем гэткую заклапочанасць? Бо за два апошнія гады заўважылі небяспечную тэндэнцыю: дзяржаўныя русіфікатары дабраліся нават да вясковых школ і пачалі пераводзіць іх на расійскую мову выкладання прадметаў. На сённяшні дзень колькасць беларускамоўных школ на вёсцы складае 77 адсоткаў. Родным словам у сельскай мясцовасці карыстаюцца ў штодзённым побыце 79 адсоткаў насельніцтва (2.108.000 чалавек), якія жывуць там. Так што ўжо ёсць пэўны адмоўны вынік дзейнасці некаторых дзяржструктураў адукацыі на вёсцы. Хаця менавіта чыноўнікі ўправы адукацыі Мінаблвыканкама прыкладаюць шмат намаганняў, каб адрадзіць беларускае школьніцтва. Калі ў дадатак да іхніх намаганняў абазначыцца пэўны грамадскі ўплыў, то адмоўнага выніку для нашай мовы ў сувязі з пагаршэннем дэмаграфічнай сітуацыі мы не атрымаем...

❒

Нам падалося цікавым, што стварэнне згаданай "Абласной праграмы..." аблвыканкам трымаў у сакрэце. Гэты дакумент карэспандэнт "Салідарнасці" атрымаў па сваіх каналах, а ў раду ТБМ імя Ф. Скарыны абласная "вертыкаль" нават не накіравала яго для папярэдняга азнаямлення ці кансультацый.

**Антон КРЫЧАВЕЦ.**

### Эканоміка і палітыка

# Памірае... прадпрыемства

**Драматычная сітуацыя склалася на Барысаўскім домабудаўнічым камбінаце, які ўжо два з паловай месяцы не працуе. Рабочыя адзін за адным звальняюцца з працы. А кіраўнікі прадпрыемства спадзяюцца, што адрадзіць камбінат дапаможа буйны расійскі заказ на будматэрыялы для аднаўлення разбуранай Чачні.**

❒

Калі я завітаў у будынак заводакіраўніцтва камбіната, пачуў стук малатка.

- Пакуль начальства не збегла, мая праца тут усім патрэбная... У астатніх спраў на заводзе няма.

Галоўны інжынер прадпрыемства Зміцер Тарасевіч распавёў, што з камбіната звальняюцца апошнія рабочыя і інжынеры. Бо ў Міністэрстве будаўніцтва і архітэктуры афіцыйныя асобы паведамілі кіраўнікам Барысаўскага камбіната, што фінансаванне спынена не на месяцдругі, а на два гады. Прынамсі, да таго часу, пакуль у Мінску пад кантролем Аляксандра Лукашэнкі не будзе ўзведзена Алімпійская вёска.

Тарасевіч лічыць, што адрадзіць ДБК можа адно: буйны, з папярэдняй праплатай расійскі заказ для аднаўлення разбуранага вайною Грознага і іншых гарадоў Чачні.

- Мы сваімі сіламі можам туды адгрузіць 42 тысячы квадратных метраў жылля ў панельным варыянце. Калі зрушыцца гэта ўсё з мёртвай кропкі, то мы атрымаем добры пакет заказаў для нашага камбіната. Вельмі добры. Загрузімся на ўсю катушку, зазначыў Зміцер Тарасевіч. Але пакуль ён гатовы да самага горшага:

- Калі абстаноўка застаецца такой, як ёсць на сённяшні дзень – безграшоўе, змушаны лакаўт, то дамы будзем дэманціраваць, бо яны не могуць стаяць гадамі, у распачатым стане; мокнуць пад дажджом і снегам.

У цэнах камбіната стаяла мёртвая цішыня. Яна, паводле сведчання чыноўнікаў, ужо апанавала і мантажныя пляцоўкі распачатых камбінатам дамоў у Барысаве, Жодзіне, Смалявічах. Адсюль цяпер здымаюцца вежавыя краны і іншая тэхніка.

- Звальняюся, бо няма працы, няма заробку. Ды і 12 мільёнаў "старых" зайцоў – гэта ж не зарплата, – сведчыў кранаўшчык Андрэй, які адмовіўся назваць сваё прозвішча, але паведаміў, што ўжо знайшоў сабе па спецыяльнасці больш грашовую працу ў іншай будаўнічай арганізацыі Барысава.

На маіх вачах звальнялася начальніца асноўнага вытворчага аддзела камбіната Наталля Гаварухіна. Яна паведаміла, што да чыста эканамічных праблем прымешваецца непавага начальніка АП "Барысаўскі ДБК" Міхаіла Каралько да інжынерна-тэхнічных работнікаў. 24 "ітээраўцы" напісалі заявы на звальненне, маючы на ўвазе апошнюю прычыну.

Прафком ФПБ, яго лідэр Аляксандр Барысёнак гэтымі днямі правялі апытанне людзей на тэму: "Каго Вы хацелі б бачыць начальнікам камбіната". 26 чалавек (абсалютная бальшыня сярод тых, хто яшчэ тут працуе) выказалася за Зм. Тарасевіча. І толькі адзін чалавек падтрымаў Міхаіла Каралько. Так сёння паміраюць прадпрыемствы...

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

### Центр профсоюзного обучения БНП — в помощь активисту

# Искусство дискуссий и целенаправленных переговоров

**(Продолжение. Начало в №№19-26, 28-42, 44 за 1999 г., 1-10 за 2000 г.).**

## ЗАПИСИ С ЦЕЛЬЮ ПОДГОТОВКИ К ПЕРЕГОВОРАМ

### 1. Подготовка по содержанию

Когда мы назначаем дату переговоров, мы прежде всего должны ясно и однозначно сформулировать их тему. Затем мы обдумываем, какие конкретные интересы есть у нас по этому вопросу. Затем мы определяем требования, удовлетворяющие наши интересы. После этого следует коллективное обсуждение аргументов, которые обосновывают наши требования. А теперь наступает черед противоположной стороны: мы анализируем ее интересы, ее предполагаемую позицию и возможные аргументы, которые она будет использовать для подкрепления своей позиции. (Осторожно: на данном этапе мы имеем дело с предположениями. Эти предположения мы должны перепроверить до начала переговоров и в их ходе с помощью соответствующих вопросов). Мы должны четко представить себе, что говорит «за», а что «против» существующей в данный момент ситуации, и затем изложить, что будет, если эта ситуация изменится или соответственно не изменится. И, наконец, мы должны учесть, какие возможности маневрирования есть у противоположной стороны. Итак, дискуссия касательно нашей собственной позиции будет состоять из следующих частей:

1. О чем конкретно мы ведем переговоры? (Предмет переговоров).

2. Какие у нас интересы? (Основания в пользу изменения или сохранения существующего положения).

3. С помощью каких требований (постановки каких целей) можно наилучшим образом представить эти интересы?

4. Каковы интересы нашего партнера по переговорам? (Основания в пользу изменения или сохранения существующего положения).

5. В чем совпадают наши и его интересы?

6. Какие позиции могут объединить интересы обеих сторон?

7. В чем будет видеть трудности наш партнер по переговорам?

8. Что мы можем и хотим предложить?

9. Какими весомыми преимуществами мы располагаем? (Позиции на рынке, монопольное положение, предусмотренные законом права).

10. До какого рубежа мы можем пойти? Какие преимущества мы можем и хотим использовать?

11. Какими преимуществами располагает противоположная сторона?

12. Как мы поступим, если другая сторона будет блокировать все предложения?

13. Какие следствия вытекают из изменения статуса-кво?

14. Что произойдет, если никаких изменений не будет?

15. Как мы оцениваем последствия? Являются ли они для нас выгодными, приемлемыми или неприемлемыми?

16. Какие альтернативы имеются? (Другие позиции, другие партнеры по переговорам, другой срок переговоров, отказ от переговоров?)

17. Какие возможности действовать и какую компетенцию по принятию решений имеет наш партнер по переговорам?

Эти вопросы помогут структурно расчленить ход коллективного обсуждения при подготовке к переговорам. При этом, в зависимости от темы, не обязательно все вопросы должны подвергнуться в равной степени интенсивному обсуждению. Ответы на некоторые вопросы будут найдены очень быстро. Однако в любом случае полезно проговорить все вопросы с тем, чтобы в представлении всех членов делегации сложилась более полная общая картина.

### 2. Подготовка по форме

1. Где пройдут переговоры? У нас или в помещении противоположной стороны? С психологической точки зрения, в любом случае более благоприятно вести переговоры в привычной обстановке. Как правило, место переговоров определяет тот, по чьей инициативе они проводятся.

2. Когда состоятся переговоры? Если мы (со)определяем их дату, мы не предложим, к примеру, то время рабочего дня, когда мы обычно устаем, и тот день, когда у нас бывает цейтнот.

3. Кто берет на себя руководство переговорами со стороны нашей делегации? Обычно это всегда руководитель делегации. Никому не следует излишне расходовать энергию на то, чтобы отвоевать для себя право высказаться. Тот, кто только тем и занят, что подстерегает удобный момент для подключения к дискуссии, уже не может внимательно слушать и начинает нервничать. Ни в коем случае один из членов делегации не должен перебивать другого члена своей делегации. Поэтому при подготовке к переговорам мы внутри своей делегации договариваемся об условном знаке, с помощью которого мы можем дать понять другим членам по тому или иному пункту. Этим условным знаком может, к примеру, быть передача руководителю делегации своей визитки или покручивание пишущей ручкой, которую я держу в руке ( последнее, однако, приемлемо лишь при том условии, что руководитель делегации хорошо видит, где я сижу). Существует принципиальное правило, что ни один член той или иной делегации не имеет права предоставлять слово кому-либо из членов другой делегации.

4. Кто берет на себя какую задачу? Кто специалист в той или иной области? Кто какой аргумент может изложить особенно убедительно (фактор личной смущенности)? Кто может взять на себя задачу по-деловому, мягко снова охладить разгоряченные головы?

5.Как можно взять на себя инициативу на переговорах? Вести переговоры. Какими возможностями мы располагаем для того, чтобы внести предложения о порядке ведения переговоров или о разграничении обсуждаемых тем? Кто мог бы взять на себя формальное руководство ведением переговоров (следить за очередностью выступающих согласно списку)? (Это должен быть человек, которого примут обе стороны). Всегда полезно в самом начале переговоров предложить правила игры и позаботиться о гигиене переговоров (справедливой игре). Если же Вы будете пытаться сделать это, когда волны будут захлестывать Вас, то считайте, что Вы опоздали.

*(Продолжение следует).*

## Рэха свята

### 58 ПРАЦЭНТАЎ АПЫТАНЫХ МІНЧАНАК У ПАДАРУНАК ДА 8 САКАВІКА ХАЦЕЛІ АТРЫМАЦЬ КВЕТКІ

Напярэдадні 8 Сакавіка сацыялагічнай службай «Люстэрка» інфармацыйнай кампаніі БелаПАН праведзена апытанне шасцісот мінчан і мінчанак ва ўзросце ад 18 гадоў.

Як жанчынам, так і мужчынам прапаноўвалася падзяліцца сваімі планамі аб тых падарунках, якія яны хацелі б атрымаць або падараваць на свята. Сацыёлагі прасілі ўказаць не болей за тры падарункі, каб не цяжка было іх несці і не асабліва дорага - купляць.

Адказы засведчылі, што найбольшая колькасць (58 працэнтаў) мінчанак хацелі б атрымаць да свята кветкі. Прыемна, што зрабіць такі падарунак гатова яшчэ большая колькасць (63 працэнты) мужчын! Кожная чацвёртая-пятая дзяўчына ці кабета марыць аб ювелірных вырабах (23 працэнты) ці грашах (22 працэнты). Відаць, у якасці дапаўнення да кветак. Праўда, тут іх жаданні некалькі разыходзяцца з планамі мужчын: толькі па 7 працэнтаў прадстаўнікоў моцнай паловы планавалі паднесці сваім родным і каханым ювелірныя вырабы або грошы. Затое 20 працэнтаў мужчын гатовы падараваць самім сябе, а 8 працэнтаў - увесь свет.

Мінчанкі, якія мараць пра касметыку (10 працэнтаў) ці парфуму (19 працэнтаў), могуць быць спакойныя - яны сваё атрымаюць. Паднесці ў якасці падарунку да 8 Сакавіка прадметы касметыкі і парфюмерыі наважваліся адпаведна 12 і 26 працэнтаў апытаных мужчын. У горшым становішчы апынаюцца дзяўчаты і жанчыны, якія мараць аб падарунку ў выглядзе прадмета бытавой тэхнікі (16 працэнтаў) або аўтамабіля (11 працэнтаў). Толькі 3 працэнты мужчын наважаны падарыць на свята сваім каханым аўтамабілі і 6 працэнтаў - бытавую тэхніку.

Кожнаму дзесятаму мінчаніну было цяжка адказаць, на якім жа падарунку ён спыніць свой выбар. А ўвогуле спектр магчымасцяў мужчын велізарны. Ад карцін, антыкварыятуда прыгатавання святочнай вячэры і рамонту да 8 Сакавіка кватэры. Гэткае ж велізарнае і кола жаданняў мінчанак - ад дробных сувеніраў-забавак да мора кахання!

*Леанід МІХЕЙЧЫКАЎ, (БелаПАН).*

# КРОССВОРД



**ПО ВЕРТИКАЛИ:** 1. Бог солнца, мудрости в древнегреческой мифологии. 2. Индеец - житель Мексики. 3. Мягкий, свободно облегающий головной убор. 4. Австралийское яйцекладущее млекопитающее с головой, вытянутой наподобие утиного клюва. 7. Предмет желаний, стремлений. 8. Воспаление слизистой оболочки носа, насморк. 11. Ядовитое сорное растение с одуряющим запахом, применяется в медицине. 12. Дерево южных стран с ароматической древесиной. 13. Ниспосланный свыше божественный спаситель человечества. 17. Витаминный препарат. 18. Агрессор. 20. Особая форма групповых занятий по какой-либо теме при активном участии слушателей. 21.Юрист, защитник чьих-либо интересов в суде. 26 Нагревательный прибор. 27. Одна из монархических регалий. 28. Пустыня в Африке. 32. Цирковой гимнаст. 33. Принадлежность женской одежды из меха для согревания рук. 34. Пряная зелень, употребляемая в пищу. 35. Учреждение, производящее розничную торговлю. 39. Морская отмель. 40. Верёвка с петлёй для ловли животных.

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:** 5. Стариный город Беларуси. 6. Тайна, скрытая причина. 9. Вечнозелёный кустарник с мелкими листьями и лилово-розовыми цветками. 10. Случай, приведенный в доказательство чего-нибудь. 14. Река в Германии. 15. Известковая сосулька на потолке пещеры. 16. Время года. 19. В католической церкви: литургия. 22. Небольшая охотничья собака. 23. То же, что терраса. 24. Земляной орех. 25. Командир батальона. 29. Судоходство между портами одного государства. 30. Заключительная часть спортивного состязания на скорость. 31. Народ, живущий по нижнему течению реки Амур и на острове Сахалин. 36. Большая плеть. 37. Искусство приготовления пищи. 38. Телега в Крыму и Средней Азии. 41. Холодное оружие в виде металлических колец или пластинки. 42. Город в Беларуси. 43. Многолетнее травянистое растение, используется в медицине. 44. Низкая резиновая обувь, одеваемая на сапоги или валенки.

Составила Н. ГОЛУБИНА.

## Просто анекдот

*Один государственный деятель обращается к другому:*

*- Знаете, мне предложили пять тысяч долларов, если я подам в отставку. Что бы вы мне посоветовали?*

*- Просите больше. Думаю, получите.*

☺ ☺ ☹

*Супруги пришли на прием, который устраивает фирма мужа. Он показывает своих знакомых:*

*- Это сэр Бэйкер, это его жена, это его любовница. Это сэр Джеймс, это его жена, это его любовница... А вон та рыженькая - это моя любовница.*

*- А наша лучше всех, - гордо замечает жена.*

☺ ☺ ☹

*- Наше хозяйство называется "Передовик". Не пора ли сменить название?*

*- Не стоит. Название все равно пишется в кавычках.*

☺ ☺ ☹

*- Дорогая, выключи телевизор, - спросонья просит муж.*

*- Не могу, милый, мы в кинотеатре.*

☺ ☺ ☹

*- Каждый из нас должен внести свой вклад в семейный бюджет, - говорит жена мужу. - Скажем так: ты бросишь пить, а я отучу тебя курить.*

☺ ☺ ☹

*- Можно ли купаться в этом месте?*

*- Не советую, река кишит крокодилами.*

*- А там, где она впадает в море?*

*- Там можно. Там крокодилы не появляются. Они боятся акул.*

☺ ☺ ☹

*- Просто невероятно, что один человек может сделать столько ошибок! - сказала Вовочке учительница.*

*- Почему один? - обиделся Вовочка. - Вместе с папой!*

☺ ☺ ☹

*Во время осмотра старинного замка один из туристов случайно разбил стоящую там вазу.*

*- Боже мой! - воскликнул экскурсовод. - Это была ваза XIV века!*

*- Ну тогда ничего, - с облегчением вздохнул турист. - Я испугался, думал, новая...*

☺ ☺ ☹

*- Вы считаете, что объявление в газете кому-то помогает?*

*- Конечно! Как только я дал объявление, что мне требуется сторож, мой магазин тут же ограбили...*

## Сам себе доктор

# Витамины - это жизнь

*(Продолжение. Начало в № 10)*

### Витамин С (аскорбиновая кислота)

Этот витамин действует в организме как стимулятор обменных процессов. Возможно, он активизирует какие-то реакции имунной системы. Но все говорит о том, что человеческий организм без витамина С существовать не может.

Особенно он необходим курящим, любителям спиртного, больным диабетом, живущим в загрязненных районах. Спасает людей от отравления газом и пылью, другими вредными веществами. Много витамина С требуется больному сердцу. В организме больного раком всегда огромный недостаток витамина С.

Уровень его содержания в организме изменчив и зависит от многих причин. Несколько минут сильных эмоций - гнев, страх - сжигают много витамина С.

Аскорбиновая кислота нормализует обмен веществ: слишком высокое содержание холестерина снижается, а слишком низкое - повышается.

Витамин С способен подавлять многие вирусы, простудные и инфекционные заболевания. Под его влиянием повышается прочность кровеносных сосудов.

Источником этого витамина является шиповник, зелень петрушки, овощи, фрукты, ягоды в сыром виде.

Первый признак нехватки - появление на нижней части языка как бы загрубевших красных линий, красные кровоточащие десна.

Атеросклероз - бич сердца и мозга - это прежде всего дефицит витамина С. Хотя, безусловно, есть и другие причины этого заболевания.

### Витамины группы В

**Все витамины группы В оказывают действие на жизненные процессы даже в небольших дозах, обеспечивают построение белка в организме. Они необходимы прежде всего для укрепления нервной и эндокринной систем, замедляют процесс старения.**

### Витамин В1 (тиамин)

Незаменим для нормального функционирования нервной системы.

При его недостатке проявляется нервозность, усталость, плохое самочувствие, проблемы с кишечником, боли в ногах.

Больше всего нуждаются в витамине В1 дети в период их интенсивного роста, особенно если они много употребляют сладостей, мучных изделий, сахара, а также женщины после 50 лет.

Известно, что тиамин полностью разлагается под действием кофе. Сам кофеин не уничтожает этот витамин, но количество соляной кислоты, выделяющееся в желудке для переваривания кофе, увеличивается и губит тиамин. Та же картина наблюдается и с крепко заваренным чаем.

Источники витамина В1: пивные дрожжи, проросшие зерна пшеницы, печень, отруби, семечки подсолнечника, сырые овсяные хлопья, фасоль, картофель, горох, черный хлеб, гречневая крупа, спаржа, петрушка, укроп, салат, шпинат, ботва свеклы, лесные орехи, сухофрукты, свиное сердце, яйца, творог, капуста, черная смородина, яблоки, слива, рыба.

*(Продолжение следует).*

## Это интересно

### ПОЛТОРА ГОДА В ТУАЛЕТЕ...

Ученые подсчитали, что среднестатистический горожанин из 60 лет своей жизни (525600 часов) треть тратит на сон. 10 лет уходит на работу, 4 года - на еду, три - на умывание и мытье. 3 года съедают транспорт и разъезды, до 3 лет - учеба. Даже посещение туалета отнимает до полутора лет. На готовку, уборку, покупки в магазинах уходит до 5 лет жизни. Не забудьте про болезни. На отдых и различные удовольствия остается менее 12 лет. Причем большая часть из них приходится на детство, когда основная часть взрослых удовольствий не доступна.

## И такое бывает

### Гробы на остановке

Жители хутора Сасив Львовской области пришли в ужас, обнаружив ранним утром на автобусной остановке два открытых гроба с покойниками. Оказалось, что зловещий сюрприз им преподнес 53-летний местный житель – пациент районной психбольницы. Сумасшедший, посетив ночью сельский погост, вытащил из семейного склепа гробы, а потом на каталке привез и выгрузил их на остановке. На допросе в милиции мужчина был мрачен и наотрез отказался объяснить, зачем побеспокоил усопших.

### Отец жен своих

Если справедлива поговорка, что «у умного человека рождается дочь, а у счастливого – сын», то Билл Тейлор по праву занял бы место среди академиков. У этого доброго семьянина из Австралии было ни много ни мало восемнадцать дочерей. А вот зять – всего один. Муж старшей дочери, Майк Блейн, после того как развелся с женой, одну за другой брал в супруги ее сестер. Так он сводил к алтарю 12 дочерей Тейлора – и со всеми разводился.

После дюжины неудачных браков Майк женился в тринадцатый раз. По обыкновению, он выбрал невесту из той же семьи, но вот только не среди сестер: на сей раз Майк попросил руку вдовы недавно умершего папы Билла. Бывшая теща приняла предложение, и Майк стал отцом своих бывших двенадцати жен.

### Жадность сгубила

С билетом лотереи штата Орегона в руке Элис Крамм стояла, уставившись на выигрышные номера. Тот билет, который она только что купила, отличается только одной цифрой от желанного, выигрывавшего 20 долларов. Элис долго боролась с жадностью, прежде чем сдаться. Потом, спрятавшись за стеллажами, она шариковой ручкой подправила цифру и направилась к кассиру получить «выигрыш».

Но, исправляя номер, Элис сильно перестаралась. Кассир заметил обман и вызвал полицию. Ее сразу же арестовали и предъявили обвинение в мошенничестве. Арестовывавший ее офицер сделал интересное открытие: он сумел прочитать настоящий номер на билете. Это открытие еще больше расстроило Элис – если бы она досмотрела список номеров до конца, то выяснила бы, что ее билет тоже выиграл – 5000 долларов!

Салідарнасць
Рэгістрацыйны №687
Газета заснавана ў 1991г. Іванам Юргевічам
Заснавальнік — Беларускі Незалежны прафсаюз гарнякоў, хімікаў, нафтаперапрацоўшчыкаў, энергетыкаў, транспартнікаў, будаўнікоў і іншых работнікаў
Рэдакцыйная калегія: Бабаед В.С., Юргевіч І.В., Галубіна Н.Я., Дубіцкі А.А., Новік С.М., Мікалайчанка А.С.
**Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць прыводзімых фактаў, цытат і іншай інфармацыі. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не абавязкова падзяляючы пункт гледжання аўтара.**
Рэдактар **Віталь Мурылёў**
**Адрас рэдакцыі:** 223710,г.Салігорск,вул.Леніна, 42, БНП. Тэл.: (01710) 2-06-22, тэл./факс: (01710) 2-00-59
E-mail: snezhana@volya.belpak.minsk.by
Падпісана ў друк 16.03.2000 года ў 8.00
Газета аддрукавана ў друкарні г.Слуцка, 223610 г.Слуцк, вул. Багдановіча, 7
Тыраж **8000**.
Заказ 1068